

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 44 (583) 13 ЛІСТАПАДА 2002 г.

## Лошыцкія дзяды



*Дубы ля Лошыцы ўчарнелі,*
*Давёў*
*бяздушнасці прагрэс.*
*Валтузіць вецер; як арэлі;*
*Згарбачаны ў жалобе бэз.*
*Душу карчуе прагны розум,*
*Рагоча ўладар – шатан.*
*Здзічэлаць.*
*Палыновы одум.*
*Палюе вырадак – груган.*

Гэты верш напісаў І. Лосік. А вось хай бы ён завітаў у Лошыцу да Крыжа 3.11.2002 г. Ён бы не ўбачыў палыну, здзічэласці, бруду. Ля Крыжа чысціня, газоны ўскапаныя, на Крыжы вісіць новы прыгожы ручнік. Так да Дзядоў падрыхтаваліся сябры партыі БНФ Ленінскага раёна. 27.10.2002 г. тут была талака. Людзі выдзіралі траву, зграбалі лісце, перакопвалі газоны. А пасля ўсе разам і сфатаграфаваліся. У нядзелю тут быў айцец Георгі з Петрапаўлаўскай царквы. Ён правёў набажэнства. Прамоўцы паведамілі, што тут ляжаць нявінныя ахвяры, іх забівалі ноччу і скідвалі ў яр. Людзі ўсклалі вянкі, кветкі да Крыжа, запалілі свечкі.

Калі ішлі дахаты, азірнуліся...

Свечкі гарэлі, як быццам душы загінуўшых дзякавалі нам за памяць пра іх, за духоўную сустрэчу з імі, за сувязь з мінуўшчынай.

*Тамара Грузнова.*

## Сустрэча з бацькам

21 верасня 2002 года горад Старыя Дарогі наведалі родныя Мікалая Мікалаевіча Улашчыка (1906-1986) з нагоды адкрыцця на сядзібе Анатоля Белага помніка вядомаму беларускму вучонаму, гісторыку, археографу, археолагу, этнографу, літаратару М. М. Улашчыку, пастаўленага тут 1 верасня 2002 года ў дзень свята беларускай пісьменнасці, які праходзіў у гарадскім пасёлку Мір Карэліцкага раёна.



**Сын М. М. Улашчыка Аляксандр каля помніка свайму бацьку. 21.09.2002 г. Старыя Дарогі.**

Помнік М. М. Улашчыку стаў шостым у шэрагу помнікаў, якія па пацягу апошніх гадоў былі тут адкрыты: Максіму Багдановічу, Адаму Багдановічу, Анатолю Бярозку, Ларысе Геніюш, у памяць Грунвальдскай бітвы 1410 года.

Пабачыць свайго слыннага родзіча, па-мастацку прыгожа і лаканічна ўвасобленага "ў камені і бронзе" прыехалі: сын М.М. Улашчыка – Аляксандр Улашчык, навуковец, па адукацыі фізік, Вячаслаў Мікалаевіч Станішэўскі, пляміннік, аўтар дзвюх кніг, прысвечанных радаводам сям'і Станішэўскіх і Улашчыкаў, Людміла Іванаўна Іваноўская, дачка сястры Улашчыка – Ніны Мікалаеўны (1901-1973) і вядомага беларускага мовазнаўца Івана Кандратавіча Бялькевіча (1883-1960), Віктар Пятровіч Іваноўскі ў мінулым працаваў на менскім трактарным заводзе, іх сын Іван – унук Улашчыка, Зінаіда Фёдараўна Станішэўская, Таццяна Уладзіміраўна Аркаддзева, настаўніца сярэдняй школы № 80 горада Менска.

На імпрэзе прысутнічалі вучні старадарожскіх школ, настаўнікі, супрацоўнікі рэдакцыі раённай газеты "Навіны Старадарожчыны", грамадскасць горада і многія іншыя.

Анатоль Белы распавёў родным М. М. Улашчыка пра гісторыю стварэння помніка і пра яго творцу – таленавітага беларускага скульптара Алеся Шатэрніка, пра тое, што яшчэ ў 1996 годзе была прынята пастанова аб стварэнні помніка М. М Улашчыку на навуковай канферэнцыі "М.М. Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі. (Да 90-х угодкаў вучонага)", якая праходзіла ў Менску 14-15 лютага, адзначыў, што ў Старадарожскім мастацкім музеі ёсць некалькі партрэтаў Улашчыка, яго кнігі і кнігі ды артыкулы пра яго навуковую дзейнасць і што ў бліжэйшы час у музеі будзе створаны асобны стэнд, прысвечаны Улашчыку.

Былы загадчык рэдакцыі літаратуры па гісторыі і праве выдавецтва "Навука і тэхніка" АН. БССР, беларускі гісторык і журналіст Анатоль Валахановіч падзяліўся ўспамінамі пра сустрэчы з Мікалаем Мікалаевічам, калі той прыязджаў у сярэдзіне 80-х гадоў 20 стагоддзя ў Менск, на сваю "малую радзіму" і завітаў у акадэмічнае выдавецтва дамовіцца з яго кіраўніцтвам аб выданні яго кнігі "Была такая вёска".

Аляксандр Улашчык, сын М.М. Улашчыка, шчыра падзякаваў Анатолю Беламу за тое, што ён паставіў помнік яго бацьку, тут, у Старых Дарогах. выказаў задавальненне, што на Беларусі не забываюць пра Мікалая Мікалаевіча Улашчыка – земляка і вучонага. У цяперашні час А. Улашчык жыве і працуе ў Маскве.

Выступілі іншыя сваякі М. Улашчыка, тыя хто ведаў вучонага, вывучаў яго працы і жыццё.

Пасля імпрэзы ў Старых Дарогах родныя наведалі ў Менску Чыжоўскі могілкі; дзе пахаваны М. М. Улашчык, яго жонка Наталля Шамарына, сястра Ніна Мікалаеўна і іншыя родныя.



**Родныя М. Улашчыка са старадарожскімі настаўнікамі і школьнікамі каля помніка М. Улашчыку.**

*Паводле*
*Анатоля Валахановіча.*

## Сын Коласа ў Гомелі




У Гомелі ў спецыялізаванай славянскай бібліятэцы адбыўся вечар сустрэчы пісьменнікаў і студэнтаў-філолагаў Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны, прысвечаны творчай спадчыне Якуба Коласа, 120-годдзе з дня народзінаў якога шырока святкуецца ў сёлетнім годзе. На сустрэчу са студэнтамі прыехаў і сын народнага паэта Беларусі -- Міхал Канстанцінавіч Міцкевіч, прататып галоўнага героя ў "Міхасёвых прыгодах".

**На здымку:** Міхал Канстанцінавіч Міцкевіч у час сустрэчы з чытачамі ў славянскай бібліятэцы г. Гомеля.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

# ВЕК ТАК НЕ БУДЗЕ ...

АРХІЎ НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ

НАДЗЕЯ ДЗЕМІДОВІЧ

ВЕК ТАК НЯ БУДЗЕ

Божа! Колькі разоў я лавіў сябе: здаецца, ведаеш чалавека... А як давядзецца што, дык тое веданне прыблізнае, павярхоўнае. От, скажам, я лічыў, што ведаю спадарыню Надзею Дземідовіч. Не адзін раз сустракаліся на розных імпрэзах, пікетах, шэсцях, у Курапатах. Надаралася – і ў метро разам ездзілі, размаўлялі, сядзелі побач. А от нядаўна пераканаўся: нічагусенькі я пра яе не ведаю. І не ведаў бы, каб не патрапіла мне ў рукі кніжачка "Век так ня будзе." Яна з таго цыклу, з той серыі, што і кніжачка – ўспамін Мар'яна Пецюкевіча "Кара за любоў да Беларусі", геолага Вячаслава Шыдлоўскага "Рысы майго пакалення" ды іншыя. Так, Надзея Дземідовіч адна з тых, хто за любоў да радзімы была пакараная. І не на дзень, і не на два, а на ўсё жыццё.

Хто ж яе пакараў? Ды ўсё ж тыя, каму нялюбыя свядомыя беларусы. Гэта ці абрусельля і дэідалагізаваныя бальшавізмам беларусы, ці расійскія набрыдні, у якіх адзін клопат, каб невелюваваць усё беларускае ў беларусаў. Нарадзілая Надзея ў колішняй Заходяй Беларусі, гадавалася ў беларускіх традыцыях. Яна з маленства святкавала 25-га сакавіка. Для яе быў родны бел-чырвона-белы сцяг. Але от прыйшлі Саветы і прапанавалі ёй замест Дня Волі свята Вялікага Кастрычніка. Пра Дзень Волі ўжо не згадвалі, не ўспаміналі. Не паспелі да Саветаў прызвычаіцца, як нямецкая акупацыя... І юная душа мусіць прыстасоўвацца да новых абставінаў жыцця, але гэтак, каб свайго трымацца, свайго шанавацца, не цурацца. Дык у чым жа яе віна? Хіба ў тым, што яе, як і тысячы гэтакіх жа юных беларусаў, кідалі з агню ды ў полымя? Тым не менш, засудзілі, саслалі. І калі? У 1950 годзе, калі ўжо і зямля наша трохі раны загаіла. У ГУЛагу яна зазнала такога пекла, што і ворагу не пажадаеш. Але і там яна заставалася адданая сваім ідэалам, роднай мове, роднаму сцягу, Дню Волі. І ніхто, і ніішто яе не магло зламаць, скарыць пра ўсё гэта якраз і распавядаецца ў споведзі Надзеі Дземідовіч "Век так ня будзе!"

Гэтая яе кніжачка пра мінулае і сёняшняе, якое мала чым розніцца ад мінулага. На сталасці гадоў яна зноў сталася сведкаю паляванне на бел-чырвона-белы сцяг, бясконцых судоў творчых людзей, разгону шэсцяў на Днях Волі. Само сабою ўзнікае пытанне? "Дык колькі ж гэта можа доўжыцца?!" Надзея Дземідовіч адказвае сваёй кніжачкай "Век так ня будзе".

Пра сябе Надзея кажа сціпла: "Я не герой (а лепей было б сказаць – я не гераіня), я простая беларуская жанчына, але калі б мяне вялі на расстрэл і сказалі: "Напішы што-небудзь кшталтам такое, - - адпусцім" – жыцця б пазбавілася б, але такое для свайго народу й для ўсяго сьвету не напісала б". Гэта такі Надзеін каментар да танкавага верша "На плошчы Леніна".

*І ўсіх вядзе ў зары сцягоў,*
*Да мрамарнага п'едэсталу,*
*Да мэты сонечнай Яго*
*Саратнік непахісны Сталін.*
***Ён край наш***
*вызваліў з турмы,*
*Ён сонца запаліў над намі,*
*І радасныя сёння мы*
*Ідзём шырокімі радамі.*

Працытаваўшы Танкаў верш, Надзея ўсклікае: "О, як гэта кранае душу!.. Прайшоўшы ўсе сцежкі сталінскага "раю", я скажу цяпер так:

***"Ён край наш***
***вызваліў з турмы***
***і ноччу звёз у Курапаты".***

Такіх, шчымлівых каментароў поўная кніга споведзяў Надзеі Дзямідовіч. Чытаеш гэтыя споведзі і душа сціскаецца. І не толькі за Надзею, а за тысячых такіх, як яна. Навошта і хто кідаў наш народ на такія выпрабаванні і пакуты? Дзе гэтыя "дзеячы" зараз? Раз жывуць ахвяры – зна-чыць жывуць і каты. Хай бы і яны абазваліся, пакаяліся, папярэдзілі сваіх наступнікаў, каб такое ніколі-ніколі не паўтарылася з нашым народам.

Надзея Дземідовіч, безумоўна, - гэта наша легенда. Яна з кагорты, нашай нязломанай Ларысы Геніюш. І душа яе такая ж паэтычная. Паэзія ёй падуладная з юнацтва. Вершы яе такія ж шчымлівыя, як і само жыццё. У зборнічку сугучныя зместу і фотаздымкі. З рознай нагоды яны. Ёсць і сібірскія, гулагаўскія. І з апошняй пары.

Я ўглядаюся ў іх, як у лёс самой Беларусі – пакутныя, насцярожаныя. На іх смутак і журба. А то дзе ж ім дзецца – праз такое пекла прайшоўшы?!

"Жыццё пад печчу" назвала Надзея Дземідовіч адзін з раздзелаў сваіх споведзяў. І гэта не метафар

Менавіта пад печчу, дзе зімою куры жывуць, мусіла жыць божая кветк Беларусі Надзея Дземідовіч

*"ДРУГІЯ САВЕТЫ"*

*У 1944 годзе, здаўшы экзамэны за чацьвертую клясу, я скончыла прагімназію. Неўзавеве прагналі немцаў. Летам усталявалася савецкая ўлада, выйшлі зь лясоў партызаны. Мы спадзяваліся, што ўсё наладзіцца: хочаш – ідзі вучыся, хочаш – працуй. Тым больш, што працы навокал хапала, край ляжаў у руінах. Мы ўсё яшчэ цешыліся, што цяпер будзе нам магчымасьць працягнуць навуку, паступіўшы ў вышэйшыя навучальныя ўстановы; дый Канстытуцыя ў саветах такая слаўная, паводле яе кожная рэспубліка Савецкага Саюзу можа быць незалежнаю, як асобная краіна. І я разумела гэта так, што мы зможам жыць самастойна й намі ня будуць кіраваць палякі, маскалі альбо немцы, ім ня будзе справы да нас. Самі будзем гаспадарамі ў сваёй краіне й у сваёй хаце"*

Гэтак думала Надзея. Але не тут тое было. 13 снежня 1944 года пачаліся рэпрэсіі вучняў слонімскай беларускай гімназіі, у якой вучылася і Надзея Дземідовіч. У гэты дзень зламалі самую вялікую Надзеіну мару – вучыцца. З гэтага дня пачалося тулянне дзяўчынкі па ўсёй Беларусі і нават у Петрапаўлаўску. Дзе яна толькі не тулялася – на печы і пад печчу, па гарышчах і склепах. А затым быў арышт і астрог. Спачатку гарадзенскі, затым чалябінскі, Кенгір... Але годзе гэта ўсё згадваць! Баліць, шчыміць душа! Няма больш моцы ні чытаць, ні пераказваць! Чытайма споведзі Надзеі Дземідовіч кожны сам сабе! Пакутуй, хвалюйся з Надзеяй Дземідовіч! Яе споведзі – гэта кніга думак без аглядкі на страх. Мяне, прыкладам, кранае такая яе развага.

*"Я нарадзілася ў 1927 годзе ў даваеннай Польшчы. Там радасьці для беларусаў было мала: жылі мы бедна, наша мама дзяліла адзін кавалачак цукру на шасьцёх. Але ж дзякуй Богу, што не нарадзілася я ў Савецкім Саюзе, а то, магчыма, была б рэпрэсаваная яшчэ ва ўлоньні сваёй маці, і, напэўна, да гэтых год не дажыла б..."*

Кранае мяне і такая Надзеіна развага. Як ўжо згадвалася, Надзея Дземідовіч мусіла не адзін год хавацца ад арышту. Пра гэтае сваё тулянне з вышыні пражытых гадоў яна напісала: "Я саступіла родным, якія плакалі і прасілі схавацца. Хавалася я ў сваякоў па ўсёй Беларусі. Гэта было невыносна... Я падумала, што мне трэба быць разам з усімі іншымі – у турме. ..., Дагэтуль шкадую. Я ўсё роўна не жыла, не была з сваімі сябрамі, не зрабіла разам з імі яшчэ адзін ганаровы крок. Я існавала... А тым часам мае сябры стварылі ў Слоніме патрыятычную суполку "Чайка"... Я ж у гэты час сядзела пад печчу!... Лепш бы з імі !.."

Шаноўная спадарыня Надзея! Я веру і спадзяюся, вашая кніжачка споведзяў шмат каму з беларусаў дапаможа апрытомнець, зарыентавацца ў нашым сённяшнім блытаным, дызгарманічным жыцці, зразумець сапраўдныя катэгорыі каштошнасцяў на гэтым свеце. Жыве Беларусь! Згодны з Вамі: І век так, як было і як ёсць, не будзе!

***Уладзімір Содаль.***

# Беларускія пісьменнікі на Гарадзеншчыне

Вечарыны пад агульнай назвай "Свабоднае грамадства – свабодная літаратура" правяла група беларускіх пісьменнікаў начале з Вольгай Іпатавай. Яе, гэтак жа, як і другога свайго земляка Міхася Скоблу, а таксама Сяргея Законнікава, Эдуарда Акуліна і Барыса Пятровіча шчыра віталі у Гарадзенскім педуніверсітэце, Каледжы мастацтваў і ў майстэрні гарадзенскага мастака Зміцера Іваноўскага, вядомага сваёй прынцыповай грамадзянскай пазіцыяй. Да іх далучыліся і мясцовыя майстры слова Алена Руцкая і Юрка Голуб.

Пісьменнікі чыталі свае творы і дзяліліся з прысутнымі сваім бачаннем тэмы вечарыны. Прысутнічала і "матэрыяльнае пацверджанне" таго, што пісьменнікі не змірыліся з тым, што гвалтоўна у іх былі адабраныя выданні, дзе заснавальнікам лічыцца Саюз беларускіх пісьменнікаў, а менавіта незалежны часопіс "Дзеяслоў", які выдалі маладыя літаратары. Сяргей Законнікаў распавёў, што ён таксама працуе над стварэннем яшчэ аднаго незалежнага часопіса, які будзе насіць назву "Ток". Вольга Іпатава падзялілася з прысутнымі ўспамінамі аб тым, як стваралася яе аповесць "Прадыслава" аб Еўфрасінні Полацкай, з-за якой яе два гады не друкавалі, а таксама адказала на пытанні прысутных аб сённяшнім стане літаратуры і жыцці Саюза пісьменнікаў.

Яна ж толькі што вярнулася з Залесся, дзе па запрашэнні актывістаў ТБМ правяла яшчэ адну вечарыну ў мясцовай школе. ***"Залессе дарагое для мяне не толькі тым, што яно звязанае з дзейнасцю людзей, якія пераследаваліся царскімі ўладамі і тварылі ва ўмовах цэнзуры, але і тым, што сёння нашая інтэлігенцыя пачала ўсведамляць, што значыць для нас прыклад гераічных продкаў—сказала яна нашаму карэспандэнту.—Я пазнаёмілася там з мастаком Сяргеем Верамейчыкам, які кожны год ладзіць святы "Паўночных Афінаў"—так называлі Залессе сучаснікі Агінскага— і тым паказвае прыклад ініцыятыўнасці і незалежнага здумення. Такія прыклады радуюць і натхняюць."***

Вольга Іпатава паабяцала сабраць для школы бібліятэчку беларускай літаратуры. Дарэчы, перад святам Пісьменства яна перадала такую бібліятэчку ў свае родныя Карэлічы.

***Ю. Трубец.***

# Паэтычная імпрэза ў Залессі

30 кастрычніка ў Залескім СПК адбылася вельмі шчырая, цікавая сустрэча з вядомай беларускай пісьменніцай і паэткай Вольгай Міхайлаўнай Іпатавай. Гэта сустрэча была арганізавана пры пасрэніцтве ТБМ імя Ф. Скарыны.



**На сустрэчы ў Залессі**

Вольга Міхайлаўна расказвала аб сабе і сваёй творчасці, чытала вершы. Гаварыла пра нашу мову, літаратуру, гісторыю. Пра тое, што мы не павінны забывацца на сваё, роднае..

Вучні нашай школы таксама прачыталі свае вершы, як падарунак пісьменніцы. Прысутныя мелі магчымасць набыць кнігу В. М. Ігнатавай "Паміж Масквой і Варшавай" ды атрымаць подпіс аўтаркі. Аб тым, што сустрэча прайшла дынамічна сведчаць шматлікія пытанні, якія задавалі дзеці спадарыні Вользе. Было б цудоўна, каб такія цікавыя сустрэчы адбываліся ў Залессі часцей.

***Д. Ліс.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 11. 2002 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 2166.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
***Кошт у розніцу:*** 120 руб.